## БЕЛАРУШЧЫНА

**Год назад, 19 верасня 1991 года адбылася падзея — аднолькава і нечаканая, і доўгачаканая. Вярхоўны Савет рэспублікі зацвердзіў нашы дзяржаўныя сімвалы — бела-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». Сёння яны паўсюль прывычныя воку, з імі нас пазнае і адкрывае свет.**

**Праўда, як паказаў час, зусім рэдка хто з нас можа дасведчана і з гонарам давесці хоць бы свайму замежнаму сябру, хоць госцю дэталёвы сэнс нацыянальных святыняў. Ад бурапенных палітызаваных дыскусій вакол іх у памяці засталася сапраўды толькі «пена».**

**Таму сёння, скарыстоўваючы сімвалічную нагоду маленькага юбілею, мы паспрабуем сістэматызаваць асноўныя звесткі і даць чытачам своеасаблівы «кандыдацкі мінімум» па гербу. У гэтым нам дапаможа адзін з распрацоўшчыкаў эталона сучаснай «Пагоні» — член саюзаў мастакоў і журналістаў, сябра Сойму БНФ Уладзімір КРУКОЎСКІ. Уладзімір Якаўлевіч, дарэчы, як мастацкі рэдактар робіць цікавы для сяброў беларушчыны часопіс «Спадчына». Усе ілюстрацыі прадастаўлены нашым субяседнікам.**

**ТАКІМ ЧЫНАМ: ГЕРБ «ПАГОНЯ» У ДЭТАЛЯХ, КОЛЕРАХ, АСАЦЫЯЦЫЯХ І ПАРАЎНАННЯХ.**



# „Муж збройны на белым кані, у чырвоным полі...“

СІМВАЛЫ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ







### ВЫЯВА ПЕРШАЯ:
## КОНЬ

Часам пытаюцца: чаму ён такі цяжкі, маларухомы? Чаму яго пастава здаецца больш вялай, чым імклівай?

Давайце звернемся да еўрапейскай геральдыкі. Мядзведзь, леў, арол і іншыя звяры жывёлы, птушкі з'яўляюцца тут традыцыйнымі выявамі. І заўсёды яны адлюстраваны ў простых позах: ніякай летуценнасці, парываў... Яны сваёй спакойнай статычнасцю ўвасабляюць грунтоўнасць, непахіснасць дзяржавы.

Потым паспрабуйце ўявіць рэальнага баявога каня часоў Вялікага княства. Ён жа быў сапраўды цяжкавозам: цягнуў узброенага, са шчытом, вершніка, а нярэдка і сам быў закаваны ў даспехі: меў ахоўныя металічныя наморднік, нагруднік. Столькі жалеза — будзь здароў! Ён не мог быць легканогім кавалерысцкім скакуном з чапаеўскай конніцы. Гэта ўжо зусім іншая эпоха ў гісторыі бою, эпоха не дзіды, але пальнай зброі...

Таму з дзесяткаў і соцень варыянтаў гэтай асноўнай фігуры аўтары эталона выбралі той, дзе найбольш удала ўвасоблены антычная прапарцыянальнасць, гатычная стрыманасць і лаканічнасць.

### ВЫЯВА ДРУГАЯ:
## ВЕРШНІК. ЯГО АМУНІЦЫЯ

Хоць сучасны герб і ствараўся на падставе гістарычных графічных варыянтаў, у пэўным сэнсе гэта ўсё ж новатвор. Яго рабілі мастакі канца XX стагоддзя, са сваім мысленнем, са сваёй школай. Але прыведзеныя тут ілюстрацыі пацвярджаюць: усе гістарычныя атрыбуты ўзяты не з фантазіі. Вось шалом з археалагічных раскопак — дакладна такая ж форма і ў нашага воя.

У прэсе была іранічная нататка пра быццам бы занадта доўгую шпору на яго ботах. І сапраўды, па прапорцыях яна атрымліваецца большай за ступню. Аднак фрагмент такой шпоры (без «зорачкі» ці «калючак»), знойдзены археолагамі на тэрыторыі Беларусі, па даўжыні не больш не менш як 40 сантыметраў!

Паглядзіце на шпоры сярэдневечнага конніка: такія ж доўгія, эфектныя. І пры тым улічыце, што мастак — яго сучаснік.

### ДЭТАЛЬ ТРЭЦЯЯ:
## КРЫЖ НА ШЧЫЦЕ

Такі шасціканцовы крыж з рознаплечнымі перакладзінамі называюць часам крыжам Ягайлы ці латарынгскім. Менавіта ў такой форме ён адлюстраваны на вядомых, найлепш захаваных выявах «Пагоні» XV—XVI стагоддзяў, і ў прыватнасці на грабоўцу Ягайлы ў Кракаве.

Не менш істотна тое, што такі крыж мае даўнія іканаграфічныя традыцыі на Беларусі. Прыгадаем тры помнікі: Рагвалодаў камень з-пад Воршы і каменны абразок з Магілёўшчыны з такім жа адлюстраваннем, а таксама славуты крыж Лазара Богшы. Апошні выклікае магутныя асацыяцыі з вобразам Ефрасінні Полацкай, святой заступніцы Беларусі.

Невыпадкова, што крыж як цэнтральны сімвал выкананы на гербе «золатам». Але пра гэта больш падрабязна ў нататцы.



## ПРА КОЛЕРЫ

Па «Звяздзе», па «Народнай газеце» чытачы прызвычаіліся да «Пагоні» ў графічным, чорна-белым варыянце. Але, на маю думку, шырэй трэба выкарыстоўваць традыцыйны каляровы варыянт, які дае ўяўленне пра сапраўдную гістарычную «Пагоню»: «Муж збройны на кані белым, у полі чырвоным...» У такім варыянце герб будзе адлюстраваны на новым пашпарце грамадзян Рэспублікі Беларусь. Яшчэ адна дэталь. У колеры бачна, што крыж на шчыце не белы, а жоўты, за чым стаіць немалаважны геральдычны сэнс.

Белы і жоўты колеры сімвалізуюць у геральдыцы металы — срэбра і золата. Усе астатнія колеры — сіні, зялёны, чырвоны, чорны — гэта эмалі. Правілы геральдыкі прадпісваюць не размяшчаць метал на метале. Гэта дапускаецца толькі ў выключных выпадках, калі трэба падкрэсліць асаблівую значнасць, унікальнасць сімвала, што мы і зрабілі з крыжам на шчыце.

А вось спалучэнне колераў герба і сцяга з пункту погляду геральдыкі ў нас проста ідэальнае. І там і тут — чырвоны і белы. Мушу заўважыць, што чырвоны колер, пад якім у народзе могуць разумець дзесяткі адценняў: і алы, і бурачковы, і малінавы і г. д.— у эталоне падаецца як пурпурна-чырвоны. Гэта найбольш урачыстае і высакароднае адценне чырвонага. Менавіта пурпурная тога была калісьці адзнакай рымскай арыстакратыі — і акрамя яе ніхто не меў права выкарыстоўваць такі колер у сваім адзенні.

Пры сённяшнім дэфіцыце тканіны і неразваротлівасці адпаведных службаў мы яшчэ нярэдка бачым дзяржаўныя сцягі, пашытыя з падручнага матэрыялу. Але піянерскія гальштукі для гэтага не падыходзяць! І ўвогуле: палотнішча сцяга павінна быць не сшыўное, а суцэльнатканае. На жаль, на нашых фабрыках такая тканіна масава пакуль не выпускаецца.

## ПРА ЭТАЛОНЫ ГЕРБА

Мы ўжо згадалі пра выкарыстанне дзяржаўнага герба ў графічным і каляровым варыянтах. Кожны з іх мае зацверджаны Вярхоўным Саветам эталон (адзіны абавязковы ўзор). Яны і захоўваюцца там жа, у Вярхоўным Савеце разам з т. зв. аб'ёмным эталонам (рэльеф «Пагоні» выляпіў Леў Талбузін). Гэтыя тры эталоны ахопліваюць усе выпадкі выкарыстання герба: ад гербавай пячаткі да шыльды на дзвярах дзяржаўнай установы.

Але што мы часам бачым. Ля ўваходу ў адну з ашчадных кас на праспекце Францішка Скарыны — новая шыльда з выявай дзіўнага герба: больш падобнага да літоўскага, чым да беларускага. Мастак тут дазволіў сабе недапушчальную вольнасць, палітычную памылку. І тое, што яе не заўважае ніхто з наведвальнікаў, — таксама паказальна.

Таму спецыяльна раскажам пра тое,

### ЧЫМ АДРОЗНІВАЕЦЦА БЕЛАРУСКІ ГЕРБ АД ЛІТОЎСКАГА

У час іх распрацоўкі было шмат апасенняў, што суседнія дзяржавы будуць мець аднолькавыя ці падобныя гербы. А як жа яны могуць быць непадобныя, калі нашы дзяржавы з адной калыскі? Такое ўжо нярэдка здаралася — калі ваяводствы, княствы мелі ў сваім гербе аднолькавы графічны малюнак, але розніліся колерам расфарбоўкі. А змена колеру ці хоць бы адной дэталі, па законах геральдыкі, стварае новы герб.

У нашых жа гербаў такіх адметных адрозненняў больш чым дастаткова. Вось асноўныя.

1. Літоўцы назвалі свой герб «Віціс», а не «Пагоня».

2. Сам герб размешчаны на шчыце т. зв. еўрапейскай, закругленай знізу формы. Наш — на т. зв. варажскім, завостраным знізу.

3. Крыж на шчыце конніка ў літоўцаў роўнаканцовы, у беларусаў, як падкрэслівалася, няроўнаканцовы.

4. Розная і форма мяча. У літоўцаў гэта т. зв. рымскі, з чоткай гранню пасярэдзіне меч. Канструкцыя нашага мяча адрозніваецца іншай формай ручкі, ляза.

5. З-пад сядла вершніка на «Пагоні» звісае трохканцовая гунька, ці папоня. На літоўскім гербе яе зусім няма.

6. Шолам літоўскага вершніка мае забрала.

7. На літоўскім гербе прысутнічае сіні (блакітны) колер шчыта, сядла, збруі.

### ЦІ ВЫПАДКОВА «ПАГОНЯ» ВЯРНУЛАСЯ ДА НАС?

Я тут магу згадаць эпізод, калі мы ў 1980-м годзе «канспіратыўна» адзначалі тысячагоддзе Беларусі (пад 980-м годам, як вядома, у летапісе ўпершыню згаданы славутыя князі Рагвалод і Тур). Ідэя адзначыць юбілей узнікла ў мастакоўскім асяроддзі. Я тады зрабіў плакат «У бітвах за волю, у бітвах за долю», Валодзя Васюк — памятны медаль, а Яўген Кулік і Мікола Купала — па паштоўцы з «Пагоняю». Саматужным спосабам надрукавалі іх і разаслалі свядомай інтэлігенцыі з віншаваннямі (і з усімі мерамі перасцярогі)...

Так, яшчэ дзесяцігоддзе назад матыў «Пагоні» ў ілюстрацыі, яе значок на грудзях успрымаліся як выклік, як форма палітычнай дзёрзкасці. Але за гэтым стаяла не дзёрзкасць «фронды» — стаяла высокая гістарычная культура, патрыятызм. Гэта быў знак: жыве Беларусь, жыве ідэя беларускасці, якую выпакутавалі Янка Купала, Уладзімір Караткевіч, Ларыса Геніюш, Мікола Улашчык, Лявон Баразна, Мікола Ермаловіч, сотні і сотні нашых суграмадзян, суродзічаў. Хачу падкрэсліць: гістарычная справядлівасць у выпадку вяртання «Пагоні» сцвердзілася не сама па сабе і не выпадковым збегам акалічнасцей. «Пагоня» сапраўды знітавала лёсы пакаленняў. І не было такога — нават у самыя змрочныя часы — каб гэты горды сімвал знікаў у нябыт. Хоць жменька беларусаў ды зберагала яго. Для мяне асабіста гэта мацнейшае сведчанне: гісторыю народа цяжкаператварыць у попел.

**Падрыхтавала Алена ЦІХАНОВІЧ.**

### ІЛЮСТРАЦЫІ:

1. Пячатка полацкага князя Глеба (Нарымунта). 1330 г.
2. Данатэла. Конная статуя Гатамелаты. Падуя, 1447—1453 г.г.
3. Шалом з археалагічных раскопак. Каля 1360—1370 гг.
4. Мячы XIII—XV стагоддзяў.
5. Крыж на Рагвалодавым камяні. 1171 г.
6. «Пагоня» з гравюры XVI стагоддзя.
7. Адна з класічных выяў «Пагоні» знаходзіцца ў Кракаве, на грабоўцу караля Ягайлы. XV ст.
8. «Віціс». Сучасны герб Літвы.



## ЯКІМ БЫЎ БЕЛАРУСКІ ПАШПАРТ

Газета «Гоман» у кастрычніку 1918 года пісала: «Як нам паказваюць, яшчэ дагэтуль не ўсе беларусы ведаюць, што ёсць беларускі пашпарт». Сапраўды, і цяпер мала каму вядома, што беларускі агульнаграмадзянскі пашпарт ужо існаваў і быў ён выпушчаны ўрадам БНР у 1918 годзе ў Славянскай друкарні Язэпа Галеўскага ў Берліне. Гэта быў дакумент з вокладкай ружовага колеру, памерам 105×70 мм, аб'ёмам 12 старонак. На вокладцы была змешчана выява «Пагоні» і надпіс «Ад імені Беларускай Народнай Рэспублікі», зроблены на беларускай, французскай і нямецкай мовах. Трэба адзначыць, што назвы ўсіх рэквізітаў падаваліся на гэтых трох мовах. На першай старонцы пашпарта было месца для фатаграфіі і надпіс: «Пашпарт для: ..., дзе адзначалася прозвішча і імя ўладальніка пашпарта. Другая і трэцяя старонкі былі прысвечаны апісанню асобы ўладальніка пашпарта. Так, на другой старонцы ўказвалася падданства, месца і дата нараджэння і месца, дзе ўладальнік пашпарта пастаянна жыве. На трэцяй старонцы змяшчаліся звесткі пра месца службы, узрост, колер валасоў і вачэй і асаблівыя прыкметы. На чацвёртай старонцы былі візы для выезду за мяжу. Пятая старонка пашпарта давала звесткі аб тым, калі і дзе быў выдадзены пашпарт. На шостай старонцы ў цэнтры змяшчалася выява «Пагоні». Першыя шэсць старонак мелі ружовы фон, апошнія шэсць былі чыстымі і маглі выкарыстоўвацца ўладальнікам пашпарта для адзнак пры паездках за мяжу.

Зразумела, што пашпарт БНР меў свае недахопы, але тое, што ён мог выкарыстоўвацца адначасова і ў якасці замежнага, было крокам наперад у параўнанні з існуючым да гэтага часу пашпартам грамадзяніна неіснуючага ўжо СССР.

**Валянцін МАЗЕЦ,**
**аспірант Інстытута гісторыі АН Беларусі.**

## «БЕЛАРУСКАЯ ХАТА» Ў РЫЗЕ

Карціны-«падарожніцы» вядомага прафесійнага мастака Вячаслава Целеша, якія пабывалі ў ЗША, Канадзе, Швецыі і Даніі, вярнуліся на радзіму— у пасёлак Красносельскі Ваўкавыскага раёна.

Некалькі дзён тут працавала выстаўка твораў вядомага майстра жывапісу і графікі. На ёй былі прадстаўлены партрэты незаслужана забытых дзеячаў беларускай культуры і мастацтва, карціны «Першыя крокі ў свет», «Маці наша — Дзвіна-Даўгава», «Бэз», «Старадаўні мелавы кар'ер» і іншыя.

Паехаўшы ў 50-я гады яшчэ юнаком з пасёлка ў Рыгу, Вячаслаў Целеш пасля заканчэння Латвійскай акадэміі мастацтваў заснаваў у гэтым горадзе майстэрні, якія атрымалі сярод яго сяброў назву «Беларускай хаты». Яе гаспадар, акрамя карцін, піша кнігі, арганізаваў Таварыства беларускай культуры «Світанак» і аб'яднанне мастакоў — выхадцаў з Беларусі, падтрымлівае цесныя сувязі з творчай інтэлігенцыяй з розных гарадоў нашай рэспублікі. Не так даўно выйшла яго кніга «Мінск на старадаўніх паштоўках», рыхтуецца да выдання новая — «Гарады Беларусі на перакрыжаваннях эпох». Частку сваіх карцін Вячаслаў Целеш падарыў пасялковаму Дому культуры і Гродзенскаму гісторыка - археалагічнаму музею.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**

---

## Парады на ўсякі выпадак

Зношанае кольца ад запальнічкі — гатовая мініфрэза для апрацоўкі маленькіх дэталяў. Яе моцна (каб не пракручвалася) заціскаюць паміж галоўкай балта і гайкай, болт замацоўваюць у патроне электрадрылі — і інструмент гатовы да работы.

***

**Скрыні для захоўвання вінтоў, іншых дробных дэталяў можна падвесіць да ножкі рабочага стала на завесах. Калі трэба нешта знайсці ў такой скрыні, яе паварочваюць на 90 градусаў.**

***

Іголку ці вінцік, якія заваліліся ў шчыліну паміж дошкамі падлогі, дастаюць пры дапамозе адвёрткі і магніта. Магніт прыціскаюць да стальнога стрыжня інструмента, вастрыё адвёрткі ўстаўляюць у шчыліну і яно прыцягне прадметы, якія трэба дастаць.

***

**Добрыя разцы для работ па дрэву можна зрабіць з канцылярскіх пёраў. Вострым канцом яго заганяюць у металічную трубку і замацоўваюць у ёй утулкай. Для зручнасці на трубку добра надзець драўляную ручку. Хвост пяра затачваюць.**

***

Дзіцячы прыбор для электравыпальвання — зручны інструмент, з дапамогай якога можна выразаць фігурную дэталь з ліставой пластмасы. Аплаўленыя краі зачышчаюцца напільнікам.

***

**Прасвідруйце невялікую дзірку ў канцы трэшчыны, якая ўтварылася ў пласцінцы плексігласу ці іншага падобнага матэрыялу. Гэта спыніць яе далейшае развіццё.**

***

Трэба разрэзаць шкло па мудрагелістай лініі? Намалюйце яе на паперы, пакладзіце пад шкло — шкларэз хутка «знойдзе дарогу».

***

**Закручваць шрубы ў тарэц фанеры ці клеенага слаістага дрэва— марная трата часу: яны ўсё роўна хутка вываляцца. Прасвідруйце дзіркі, забіце туды драўляныя затычкі. Цяпер закручаныя ў гэтым месцы шрубы будуць моцна трымацца ў гнёздах.**

***

Калі ў драўляных дэталях трэба прасвідраваць мноства дзірак строга пад вуглом 90 градусаў, дапаможа нескладанае прыстасаванне. Гэта кубік з цвёрдай драўніны, у якім з вялікай дакладнасцю свідруюць эталонную дзірку. Цяпер можна хутка і якасна выканаць усю астатнюю работу.

***

**Не сушыце гумавы абутак каля адкрытага полымя і не трымайце ў шафе, дзе ёсць нафталін: гума ад гэтага грубее, а светлая яшчэ і губляе колер.**

***

Вось самы просты спосаб чысткі расчосак і шчотак для валасоў: пакладзіце іх у цёплую ваду, дадайце туды некалькі кропель нашатырнага спірту і добра памяшайце. Для ачышчэння расчоскі ад бруду можна выкарыстаць старую зубную шчотку.



## СВАЕ КОЛЫ

## Мыем машыну




**Простая думка, вынесеная ў загаловак, не толькі для людзей. Чысты аўтамабіль даўжэй служыць—ісціна, правераная вопытнымі аўтааматарамі. Больш проста памыць кузаў пасля паездкі па гразкай дарозе, чым потым мучыцца з яго перафарбоўкай, тым больш што цяпер яна абыдзецца ў добрую капейку.**

Здавалася б, што тут складанага — памыць машыну, але і ў гэтай справе ёсць свае хітрасці. Напрыклад, недапушчальна ачышчаць бруд з кузава абціраннем або саскрабаннем — можна пашкодзіць фарбу. З дапамогай механічнай мыйкі таксама ёсць небяспека пашкоджанняў. Таму лепш мыць аўтамабіль старым правераным спосабам: уручную з дапамогай губкі. Хоць гэта і шмат клопатаў, затое гарантуе корпус ад драпін.

Існуе думка, што машыну лепш мыць у яснае, сонечнае надвор'е. Гэта памылкова. Кроплі вады, адбіваючы сонечнае святло, прапальваюць фарбу. У ветранае надвор'е таксама лепш не брацца за мыццё: мыйны сродак не змываецца да канца і можа пашкодзіць фарбу.

Пры мыцці лепш не прымяняць моцныя шчолачныя растворы, мыйныя парашкі.



Ідэальны сродак — аўташампунь, але цяпер ён каштуе дорага, ды і купіць яго не так ужо і проста. Таму карыстайцеся звычайным мылам, пакуль яно не стала дэфіцытам. Мыльны раствор рыхтуюць з разліку 6—8 літраў на кузаў легкавога аўтамабіля.

А наогул вельмі часта мыць машыну не трэба. Калі яна проста запылілася, то лепш выцерці пыл мяккай шчоткай або анучкай. Здаравей будзе!

## ХАТНІЯ НАРЫХТОЎКІ

### Кампоты

Можна прыгатаваць кампоты з цэлых яблыкаў, з палавінак або нарэзаных кавалачкамі. Цалкам, натуральна, рыхтуюцца плады маленькага памеру. Нарэзаныя кавалачкамі яблыкі, каб яны не пацямнелі, спачатку апускаюць у злёгку падсоленую або крыху падкісленую ваду (на 1 л вады 3 г лімоннай кіслаты або палавіна сталовай лыжкі солі). Перад укладваннем у слоікі яблыкі прамываюць халоднай вадой.

Ачышчаныя ад скуркі і нарэзаныя кавалачкамі яблыкі заліваюць яблычным сокам. Пастэрызаваць, не даводзячы да кіпення (пры тэмпературы 85 градусаў), літровыя слоікі — 15 хвілін, 2-літровыя — 20 і 3-літровыя—30 хвілін. Цукар можна не дабаўляць.

**Яблыкі зімовых сартоў,** цэлыя або нарэзаныя, укладваюць у слоікі і заліваюць кіпячым сіропам (200—300 г цукру на 1 л вады), накрываюць накрыўкамі і вытрымліваюць 5 хвілін. Затым сіроп зліваюць, награваюць да кіпення і заліваюць ім слоікі так, каб сок пераліўся цераз край. Адразу ж закатваюць і ставяць перавернутымі.

**У невялікіх яблыкаў** трубачкай выразаюць асяродак з насеннем, укладваюць іх у слоікі. Заліваюць кіпенем, накрываюць накрыўкамі і трымаюць 10 хвілін. Затым сок зліваюць у каструлю, усыпаюць туды 2 шклянкі цукру (з разліку на 3-літровы слоік), кіпяцяць і гарачым сіропам заліваюць яблыкі даверху. Слоікі адразу ж закатваюць і пераварочваюць уверх дном. Пажадана іх добра накрыць, каб астывалі марудна.

Кампот атрымаецца вельмі прыгожым, калі дадаць да яблыкаў чарнаплоднай рабіны.

### Варэнне

**З антонаўкі.** Яблыкі рэжуць кавалачкамі з скуркай, засыпаюць паслойна цукрам і вытрымліваюць 6—8 гадзін. Затым ставяць на агонь, дабавіўшы па шклянцы вады на 1 кг яблыкаў. Даводзяць да кіпення, гатуюць не больш 5 хвілін і потым яшчэ настойваюць 10—12 гадзін. Пасля гэтага варэнне даварваюць да гатоўнасці. Яно павінна атрымацца празрыстым, духмяным, з цэлымі кавалачкамі яблыкаў у сіропе.



**З ранету ці кітайкі.** Дробныя яблыкі бяруць цалкам, з хвосцікамі. Плады накалваюць, каб не лопнула скурка пры варцы. Бланшыруюць — у друшляку апускаюць на 2—3 хвіліны ў кіпень, пасля чаго адразу ж— у халодную ваду. Гатуюць сіроп: на 1,2 кг цукру 2 шклянкі вады. У кіпячы сіроп апускаюць астылыя яблыкі (1 кг), даводзяць да кіпення і адразу ж здымаюць з агню. Вараць у 2-3 прыёмы, з выстойваннем 10—12 гадзін.

### Павідла

Спачатку трэба прыгатаваць яблычнае пюрэ. 1 кг яблыкаў ачышчаюць ад скуркі, рэжуць, заліваюць 200—300 г вады, ставяць на агонь і вараць, пастаянна памешваючы. Калі маса стане мяккай, яе здымаюць з агню, праціраюць праз сіта драўлянай лыжкай. Гатовае пюрэ ставяць на агонь і вараць 10 хвілін з моманту закіпання, пасля чаго дабаўляюць на 1 кг пюрэ 500—600 г цукру. Агонь павялічваюць і вараць масу да добрай гушчыні, пастаянна памешваючы, каб не прыгарэла. Гатовае павідла раскладваюць у гарачыя сухія слоікі, прыкрываюць марляй і пакідаюць да ўтварэння на паверхні коркі, пасля чаго закрываюць пластмасавымі накрыўкамі ці завязваюць шчыльнай паперай. Для працяглага захоўвання слоікі адразу ж пасля напаўнення закатаць металічнымі накрыўкамі.

### Яблычныя цукеркі

На 2,5 кг яблыкаў — 1 кг цукру, 1 л вады. Яблыкі дробна нарэзаць і заліць вадой. Варыць, пакуль уся вадкасць не выпарыцца. Працерці праз сіта, дабавіць цукар, варыць 20—30 хвілін да атрымання густой масы. Вылажыць гэтую масу на ліст, папярэдне змазаны алеем. Разраўняць слоем 8—10 мм і добра разгладзіць зверху нажом. Пакінуць на два дні сушыцца. Чаркай або формай нарэзаць яблычную масу кольцамі і зноў 2—3 дні сушыць, затым перасыпаць кольцы цукровай пудрай, зноў сушыць. Зацвярдзелыя цукеркі скласці ў каробку, перасцілаючы пергаментнай паперай.

